*на шырокім свеце*

# ПАДАРОЖЖА У АФРЫКУ

З Канакры (Гвінея) да Акры (Гана) самалёт ляціць шэсць гадзін, пераважна, над лясамі затопленымі па пояс у вадзе. Незвычайны гэта і невясёлы від. Часамі з'яўляюцца лясныя выспы, і зноў усё топіцца ў дрыгве, часамі прасоўваецца за вокнамі самалёта разлівістае вусце нейкай ракі, бліскае прастор акіяна, і зноў зялёная нерухомасць дрэў загледжаных у балота.

Над табою і пад табою сонца. І нават няважна, што сонца, але тое, што яно бяссільнае перад аграмадзінаю вільгаці і бязлюддзя.

Ужо першы шпацыр па горадзе наводзіць думку, што знаходзімся ў багатай, як на афрыканскія ўмовы, краіне. Гана налічвае амаль сем мільёнаў жыхароў. Сталіца Ганы, Акра — 800 тыс. Гэта вялікі горад, раскінуты пасярод агародаў і заўсёды зялёных паркаў. Толькі цэнтр забудаваны на еўрапейскі спосаб, гэта значыць брыдкімі, найноўшымі дамамі. Рух на вуліцах велізарны. Коркі на вуліцах і плошчах, ганцы ездзяць хутка і бязладна. Вялікія гмахі міністэрстваў і камунальных будынкаў, банкі, пошты, школы, кінатэатры, магазіны. Амаль малы Лондан, калі б не чорныя жыхары. Ганцы апранаюцца цалкам па-еўрапейску — мужчыны і жанчыны.

Горад хаваецца ў зеляніне. Таму нягледзячы на вялікую лічбу жыхароў, Акра больш падобная да прымарскога курорта чым да сталіцы дзяржавы.

Прамысловасць Ганы можна пабачыць у Тэме, навапабудаваным порце-горадзе, які існуе ад 1960 года. Сёння Тэма — гэтае пяцігадовае дзіця Ганы — налічвае ўжо 80 тысяч жыхароў і над яе дахамі высіцца лес фабрычных комінаў і партовых кранаў. Створана тут металургічную прамысловасць і першую ў Гане палітэхніку.

У Тэме як і Акры стаіць многа помнікаў. Помнікаў перамогі і помнікаў прэзідэнту Нкрумах. Некаторыя з іх створаны нашым скульптарам Слясінскай. Мабыць, таму характарызуюцца гэтыя помнікі прастатою, наватарствам, сімвалічнасцю і гармоніяй з краявідам зеляніны і няўлоўнай прасторы. Зрэшты, новая Акра таксама як і Тэма ў значнай меры з'яўляецца творам польскіх архітэктараў, якія здабылі тут велізарны аўтарытэт і карыстаюцца шырокай падтрымкай з боку ганскіх улад.

У басейне ракі Вольта польскія спецыялісты ствараюць плантацыі цукровага трыснягу, будуюць цукровы завод і найноўшую папяровую фабрыку. Тут балоты, дрыгва і джунгля. Каб існаваць на гэтай зямлі, трэба вынішчыць джунглю, будаваць ірыгацыйную сістэму, садзіць трыснёг, будаваць фабрыкі. Працуе некалькі дзесяткаў польскіх інжынераў і тэхнікаў. Прыехалі яны ў гэтую краіну пасля таго, як польскія фірмы выйгралі конкурс на загаспадараванне гэтага раёна Ганы. Конкурс не быў лёгкі, канкурэнтам палякаў у гэтым конкурсе была галандская фірма, дасведчаная ў арганізацыі плантацый цукровага трыснягу ў трапічным клімаце.

Аднак палякі выйгралі конкурс і цяпер выйграюць у штодзённай барацьбе з дзікай прыродаю. Ужо шуміць трохметравы трыснёг, высяцца сцены цукровага завода, джунгля адступае крок за крокам. Яшчэ часамі на трактар шасціметравай даўжыні вуж баа-душыцель і кідаецца ў цяжкую барацьбу з польскім шафёрам-механікам, але нішто ўжо не спыніць наступлення польскіх інжынераў.

У вечаровы час польскія інжынеры і спецыялісты не сядзяць з заложанымі рукамі. Сарганізавалі яны тэхнічную школу для афрыканскіх рабочых. Вучаць іх новай прафесіі і польскай мовы, бо больш здольныя рабочыя выязджаюць на стаж у Польшчу, а некаторыя з іх мараць нават аб заканчэнні польскай палітэхнікі. Дружба паміж ганцамі і палякамі ўзорная. Дружба і ўзаемадапамога. Побач цукровага завода вырастаюць жылыя будынкі, разрастаецца вялікі пасёлак, у якім дзеці маюць таемнае падабенства да белай расы. Як-ні-як але горад Вольта будзе адрозніваццa не толькі ўзорнымі плантацыямі і цукровай прамысловасцю, але таксама колерам скуры сваіх жыхароў. Больш падобнай на шакалад чым какава. (а-ся)

## Вестці БССР

■ Пачнецца будова Бабруйскай цеплавой электрастанцыі, якая будзе працаваць на фрэзерным торфе. Ужо ў 1968 годзе гэта электрастанцыя дасць першы прамысловы ток у беларускую энергетычную сістэму, а таксама тэхнічную пару і цяпло для прамысловых аб'ектаў горада.

Падобныя электрастанцыі будуць пабудаваны ў Мінску, Гродне, Мазыры, Свіры. Прытым будзе пашырана моц Смалевіцкай гідраэлектрастанцыі.

■ У мінскім кінатэатры «Цэнтральны» праходзіў тыдзень польскага фільма. Напачатак быў паказаны фільм «Разводаў не будзе» — затым: «Асабняк на Зялёнай», «Дзяўчына з банка», «Як быць каханай», «Эва хоча спаць».

■ Віцебскае аддзяленне Беларускай чыгункі пачало пераходзіць з паравознай на цеплавую цягу. Да канца года Віцебскае лакаматыўнае дэпо атрымае сорак цеплавозаў.

■ Барысаўскі прамысловы камбінат пачаў выпуск рэстаўрацыйных столікаў пакрытых пластмасай. Першая партыя 400 такіх столікаў закупіў Ленінград, Тбілісі, Днепрапятроўск, Мінск і другія вялікія гарады.

■ Гэтымі днямі ў Ашмянах здадзена ў эксплуатацыю другі камбінат бытавых паслуг. У двухпавярховым корпусе размясціліся трыкатажны цэх, швейная майстэрня, фатаграфія, цырульня. У бліжэйшы час пачне працаваць механізаваная фабрыка шыцця і рамонту абутку.

■ Беларуская культура святкуе 125-годдзе з дня нараджэння выдатнага пісьменніка Францішка Багушэвіча, беларускага паўстанца 1863 года. Адбыўся ўрачысты вечар у клубе Саюза пісьменнікаў Беларусі, а таксама адбываюцца імпрэзы на радзіме Ф. Багушэвіча, на Ашмяншчыне.

■ Белавежская пушча — цудоўны закутак Беларусі. Карэспандэнт П. Раковіч з мястэчка Высокае так піша: «З раслінным і жывёльным светам пушчы экскурсанты могуць пазнаёміцца ў краязнаўчым музеі. У ім — 7 аддзелаў. У першым з іх расказваецца аб гісторыі пушчы. Наступныя залы раскрываюць багацце яе прыроды. Экспануецца 112 відаў звяроў, 303 — птушак, шырока прадстаўлены раслінны свет. Цікавы і апошні, сёмы аддзел. Тут наведвальнікі знаёмяцца з навуковымі працамі аб флоры і фауне пушчы.

Летась і сёлетняй зімой музей наведала больш як 50 тысяч экскурсантаў. Сярод іх шмат зарубежных гасцей... з Германскай Дэмакратычнай Рэспублікі, Чэхаславакіі і інш.»

■ На Днепра-Бугскім канале пачалася навігацыя. У Брэсцкі порт прыбылі першыя баржы з рудою прызначанай для Германскай Дэмакратычнай Рэспублікі.



■ На здымку: актывісты аддзялення Таварыства савецка-польскай дружбы на Мінскім трактарным заводзе рыхтуюць новую экспазіцыю пакоя савецка-польскай дружбы, які тут наладжана. (ся)

## Жыцця БГКТ

## Справы музея

29 красавіка адбылося ў Белавежы пасяджэнне Прэзідыума ГП БГКТ і наглядальнай рады ГС і яго праўлення. Былі абмеркаваны справы арганізавання ў Белавежы беларускага музея. З вялікім задавальненнем адзначаем той факт, што ўсе прадстаўнікі ГС-у ў Белавежы разумеюць патрэбу існавання такога музея і аказваюць усебаковую падтрымку і дапамогу. ГС забяспечвае памяшканнем на музей і будзе аплачваць усе выдаткі звязаныя з абслугай, а ГП забяспечыць экспанатамі матэрыяльнай культуры. Пасля правядзення рамонту, які выконваецца часткова грамадскім чынам працаўнікамі ГС-у і ГП, пачнецца звозка экспанатаў. Безумоўна, неабходныя будуць тут і мастакі і знаўцы каштоўнасці экспанатаў. У гэтай справе ГП звернецца з просьбай да сваіх членаў БГКТ вядомых Гайнаўскіх мастакоў — Кабаца і Корзуна, а таксама кусташа з Таруня грам. Пецюкевіча, каб дапамаглі. Калі ўсё пойдзе добра, дык магчыма што прыблізна 1-га чэрвеня гэты тымчасовы музей будзе адкрыты. Гаворым што «тымчасовы» таму, што ГП БГКТ будзе далей пакладаць намаганні адносна пабудовы памяшкання на музей. (мх)

## УРАЧЫСТАЕ ПАСЯДЖЭННЕ

30 красавіка ў памяшканні ГП адбылася акадэмія (урачыстае пасяджэнне) прысвечаная міжнароднаму святу працоўных 1-аму маю. З дакладам выступіў сакратар партыйнай арганізацыі пры рэдакцыі «Ніва» і Таварыстве Уладзімір Паўлючук. У мастацкай частцы выступілі: удзельнікі курсу гарманістаў і самадзейнікі рускага таварыства. На заканчэнне дэманстраваўся савецкі фільм «На сямі вятрах». (мх)

## Падарункі культуры

Аддзел Культуры Прэзідыум ВРН у Днях асветы кніжкі і друку 5 чытальням публічных бібліятэк і 5 вясковым святліцам купіць абсталяванне. Усё на суму 100 000 зл.

500 000 зл. з надвыжак бюджэтных Прэз. ВРН у Беластоку дае бібліятэкам на пакупку кніжак.

250 000 зл. Аддзел Культуры прызначае на тэлевізары і музычныя інструменты для бібліятэк, школ.

Ваяводская бібліятэка адкрые 15 новых бібліятэчных пунктаў.

Як бачым падарункі не малыя, каб добра людзям служылі. (вл)

## Першы канцэрт

Харавы калектыў Беларускага таварыства ў Бельску Падляшскім, які працуе пад мастацкім кіраўніцтвам настаўніка спеву з Педагагічнага ліцэя Аляксандра Лукашука, адзначаючы свята працоўных даў першы свой публічны канцэрт у вёсцы Райкі (Бельшчына). Усе нумары праграмы былі горача прыняты прысутнымі. Гэты хор возьме ўдзел у павятовых элімінацыях Беларускіх мастацкіх калектываў, якія будуць праводзіцца ў канцы мая. (мх)




## Успаміны 3

У нас, у Праневічах, жыве сталяр Грышка Гарашкевіч. Неяк спатрэбіўся яму падручны. Грышка ўзяў мяне. Чаму? Я любіў гэтую працу. Смалісты пах свежай стружкі мілейшы быў для мяне ад паху кветак. Часта заходзіў я да Гарашкевіча, прыглядаўся да яго працы, а калі ўжо дапусціў ён мяне да сваіх стругаў, кубанкаў і фуганкаў, хадзілі яны ў маіх руках, як баян у гарманіста. Бывала закладаўся, што спустам сяміметровую стружку пушчу за адным махам. І выйгрываў.

Грышка — чалавек сярод людзей бывалы, не адно чуў, яшчэ больш бачыў, многа чаго мне пераказваў. Вядома ж, калі ўдвух працуем, аб чымсьці трэба гаварыць. Пасля дзядзькі Глеба, Грышка Гарашкевіч быў другім маім настаўнікам. Дзядзька Глеб, зрэшты, таксама не забываў пра мяне. Прыносіў газеты і кніжкі, вучыў і апавядаў дзівы розныя.

У вёсцы часта пачалі паяўляцца лістоўкі. Людзі нявідкі падсоўвалі іх пад вочы галодных сялян, як чырвоныя вугалькі пад сухую салому. Хацелася ведаць, хто яны — гэтыя людзі, хацелася паглядзець ім у вочы, пераканацца, ці яны звычайныя, як усе вясковыя людзі. У памяці аджываў вобраз гэтага дня, калі паліцаі праводзілі допыты ў нашай вёсцы і пазней, калі мяне прымкнулі. Зімой на вечарынках, а летам на лавачках, або за коньмі, на лузе, старэйшыя і малодшыя часта талкавалі пра камуністаў. Часам удалося мне падгледзець, што ў нашага суседа Піліпа Карсака паяўляюцца нейкія чужыя людзі. Дадумоўваўся я, што ён у камуністах. Бывала, зайду да дзядзькі Піліпа ў клуню ці ў хату, гаворым пра розныя вясковыя справы, а мне язык свярбіць, запытаць пра камуністаў, але чагосьці страшнавата, і адвагі не хапае.

Сярод другіх сябраў аднавяскоўцаў быў у мяне Косця Артэмюк.

Вось аднойчы... недзе пад восень 1930 года... Хіба было тады нейкае праваслаўнае свята, або проста нядзеля... Ідзем вясковай вуліцай, пра дзяўчат гаворым, а мне з галавы не выходзіць адно. Урэшце набраў я смеласці.

— Косця, — кажу, — гавораць, што зноў хтосьці раскінуў лістоўкі.

— Ага, — кіўнуў галавою мой сябра.

— А ты ведаеш, хто гэта пастаянна іх раскідвае?

— А ты што, паліцыі ў падхалімы запісаўся?

— Ідзі ты к чорту! — раззлавала мяне. — Табе яшчэ, нябось, паліцыя пад нагавіцы не заглядала, а мне... ужо давялося.

— Дык чаго дапытваешся?

— Хацелася б ведаць, пра што яны талкуюць.

Косця замоўк і некалькі хвілін змагаўся з думкамі. Неяк праз скуру чуў я, што ён штосьці ведае.

— Ну, ведаеш што? — запытаў я зноў.

— Нямнога, — урэшце адазваўся Косця. — Знайшоў я сёння на світанні адну гэтую лістоўку і прыхаваў яе ў полі.

— Пакажы!

Сябра згадзіўся, узяўшы ад мяне «чэснае слова», што я нікому нічога.

Пайшлі ў поле. Кастусь дастаў лістоўку з-пад мяжы, дзе яна ляжала прыдушаная камнем, і мы хутка накіраваліся ў бліжэйшыя кусты. Косця разлажыў сваю лістоўку. Трымаў яе ў руках неяк далікатна і ўрачыста, як штосьці святое. Вялікія чорныя літары выразна кідаліся ў вочы. Я чытаў і чуў, што сэрца пачынае мне шпарчэй біцца. Лістоўка датычыла выбараў, якія назначаны былі на дзень 16-га лістапада, заклікала змагацца з урадам Пілсудскага.

Думкі зашумелі ў галаве, як на прадвесні вада ў рэчках. Выдавалася мне ўсё гэта дзіўным і незразумелым. Змагацца з урадам Пілсудскага? То ж у яго столькі паліцыі. войска?! Як пад яго падкапацца?

★ ГАВОРАЦЬ ФАТАГРАФІІ ★

УКЛАД БЕЛАРУСКАГА НАРОДА У РАЗГРОМ ФАШЫСЦКІХ ЗАХОПНІКАЎ

# ПАРТЫЗАНЫ, ПАРТЫЗАНЫ, БЕЛАРУСКІЯ СЫНЫ



Камандзір І-й Бабруйскай партызанскай брыгады В. Левінцаў ставіць баявую задачу.



З першых дзён Вялікай Айчыннай вайны Барыс Цяльпук разам са сваёй сям'ёй пайшоў у лес і арганізаваў партызанскую групу. У яе ўваходзілі жонка, пяць сыноў і пяць дачок. Пасля група ўлілася ў партызанскі атрад «За Радзіму» Пінскага партызанскага злучэння.




У гады акупацыі дзеці партызан навучаліся ў лясных школах.



Партызанскі шпіталь.



Вартанне партызан у вызвалены горад Чэрвень.

*З пажоўклых картак*

# ГОРАД, ЯКІ ВЫРАС З ЛЕСУ

Я не маю на думцы Гайнаўкі, хаця і яна таксама вырасла дзякуючы таму, што тут іменна ўзнікла прадпрыемства, якое перапрацоўвае драўніну. На некалькі стагоддзяў раней у верхнім цячэнні «гербавай» ракі Падляшша — Нарвы — быў аснаваны горад, які таксама вырас дзякуючы лесу, а калі яму не хапіла дрэнна — пачаў паступова паміраць і сёння з'яўляецца толькі вёскаю. Гэтым горадам з'яўляецца Нарва.

Яна была заснавана ў пачатках XVI стагоддзя ў месцы, дзе раней была толькі пераправа цераз раку. Трэба меркаваць, што не было там мосту, не было праўдападобна нават вёскі, таму што лакацыйная прывілея выразна гаворыць аб пасяленні людзей «на сырым корані».

У чым гэта заключалася? Ану, аднаго разу гаспадар грунтаў пастанавіў сабе, што добра было б у гэтым іменна месцы заснаваць вёску або горад, каб такім чынам павялічыць даход з маёнтку. Каб аснаваць горад ён павінен мець каралеўскі дазвол. Тады гаспадар звяртаўся да караля з просьбаю, каб той даў яму такую прывілею. Калі яе атрымаў, даваў загад сваім людзям абвяшчаць, што кожны, хто захоча пасяліцца ў новабудуючымся горадзе, будзе вольны ад працы ў маёнтку, атрымае зямлю, будзе мець права займацца рамяством або гандлем — чым захоча і патрапіць. Зямля, якую надзялялі такім пасяленцам, найчасцей ніколі не была апрацоўвана. Часта былі гэта лясы, някранутыя сякерaю. Трэба было высечы лес, выкарчаваць пні, і толькі тады можна было сеяць збожжа. Такое іменна пасяленне называлі пасяленнем «на сырым корані». Такім чынам была аснована і Нарва.

Першы раз гарадскую прывілею атрымала Нарва ў 1514 годзе, але відаць замала было ахвотнікаў да пасялення на лясных грунтах, таму што 15 год пазней была надана новая прывілея, якая давала большыя карысці пасяленцам. І толькі тады рушыла будова горада.

Новыя мяшчане атрымалі 300 валокаў зямлі, потым (у 1576 годзе) далучылі да Нарвы яшчэ 4 вёскі, якія назвалі «прыгарадамі». Мяшчане апрацоўвалі зямлю, але не гэта было галоўнай крыніцай іх утрымання. Большасць тутэйшых рамеснікаў жыла з лесу.

Праз Нарву бегла дарога, якая спалучала Літву з Польшчай. На аграмадныя прасторы гэтая дарога вяла цераз бязлюдную пушчу. Увесь тавар вазілі тады або на вазах, або на лодках. Жыхары Нарвы патрапілі гэта выкарыстаць. Было тут 11 калеснікаў, якія купецкім караванам дастаўлялі гатовыя колы, або рамантавалі паламаныя ў дарозе, былі тут дзягцяры, г. зн. людзі, якія займаліся вырабам дзёгцю да смаравання восі, былі кавалі і — «руднікі», г. зн. людзі, якія ўмелі выплаўляць жалеза з беднай багнавай руды пры дапамозе прымітыўных печак, апальваемых

(Працяг на стар. 4)

— Цар расійскі быў яшчэ мацнейшым! — упэўнена адрэзаў Косця Артэмюк. — І бач, бальшавікі не толькі яго, але разам з ім усіх яго генералаў пагналі козы пасвіць.

— Але тут Польшча, — сказаў я, выяўляючы свае сумненні. — Там, у Расіі, быў Ленін і былі бальшавікі...

— Ленін сам без партыі таксама нічога не зрабіў бы. Ён найперш стварыў моцную партыю. Вось, каб у нас...

— Дык як? Можа ў нас таксама ёсць такая партыя, што...

— Так моцнай яшчэ няма, але...

Раптам Косця штосьці прыпомніў, пачырванеў і хаваючы лістоўку ў кішэню, сказаў:

— Прычапіўся ты як смала. Дваццаць год ужо пражыў, а розуму... — Косця пагардліва махнуў рукамі. — Пра КПЗБ ты не чуў, ці як?

— Пра што?

— Пра Камуністычную партыю Заходняй Беларусі! — адрэзліва вымаўляючы словы неяк са злосцю, але ўрачыста, сказаў ён.

— Яна, значыць, нібы як ленінскія, бальшавікі?

— Нібы штосьці такое.

— І моцная такая?

— Ну, не, але яна не адна ў Польшчы. Ёсць яшчэ Камуністычная партыя Польшчы і Заходняй Украіны.

— І ты таксама запісаўся ў гэтую партыю?

Косця неяк падазрона паглядзеў на мяне.

— Я? Што ты? Мне яшчэ далёка, — адрэзаў, бы сякерай адрубаў і падняўшыся з-пад куста, заявіў.

— Ну, пара дамоў!



# Багацце корміць чужых

Венесуэла (сталіцай праслаўлены ў песнях Каракас), адна з найбагацейшых краін Лацінскай Амерыкі. Тут і нафта, медзь і многа розных каштоўных мінералаў. Ды багацці Венесуэлы знаходзяцца ў руках амерыканскіх манаполяў. Свая ўлада — вайсковая кліка ідзе на руку чужому капіталу. Ужо гадамі цягнецца ў Венесуэле барацьба, якой кіруе Фронт народнага вызвалення. Вялікія тэрыторыі краіны трымаюць у сваіх руках партызаны. Тэрор аднак не ў сілах паканаць волі свабоды. Прыклад Кубы тут дзейнічае як памочнік, паказвае, што можна вызваліцца ад сваёй дыктатуры і чужых манаполяў.

На здымку: У багатай краіне так жывуць людзі.

# Вечная вясна?

Цяперашні горад — гэта адзін вялікі комін. У горадзе не шукай свежай зелені, ці чыстага паветра. Вучоныя ўжо даўно думаюць, як горад выратаваць ад усяго бруднага і нездаровага. Асабліва ў ЗША такія доследы вядуцца шырока, бо і гарады тут велізарныя. Такі Нью-Йорк аграмадны (10 мільёнаў), цесны, закопчаны, летам 40° спякоты.

Амерыканскія спецыялісты кінуліся найперш на Нью-Йорк. Яны апрацавалі праект... кліматызавання цэлых кварталаў горада. Рэалізацыя праекта мае даць ньюйоркцам вечную вясну.

Сам праект просты і зусім мажлівы для застасавання пры сучаснай тэхніцы. Вось над кварталамі горада трэба расцягнуць велізарныя капулы з празрыстага матэрыялу. Капулы ўтрымліваліся б пры дапамозе сціснутага паветра ў іх нутры. Прастор пад капулай быў бы кліматызаваны, усе газы і дымы вывяваліся б з-пад капулы, а ўпускалася б свежае, адпаведна нагрэтае (калі зіма), альбо ахаладжанае (калі лета) паветра.

Капула была б з пластмасы і важыла б 75570 тон, каштавала б 200 мільёнаў долараў.

Ці праект сапраўды будзе зрэалізаваны не ведома. Пакуль гэта як цікавостка. (а-вл)



Мала, але цікава

# Электрычны сон



Японская фірма вынайшла апарат, які выклікае здаровы сон. Ён выдае мяккі, манатонны гук, падобны да шуму дажджавых кропляў. Пры такім гуку заснеш за 10 мінут. Апарат сам выключаецца. Лёгкі і можна насіць яго ў кішэні.

Так. Ды пакуль апарат дойдзе да нас, пажадаем, каб падаў дождж, і, прыслухоўваючыся да яго шуму, заснем, а палі нашы прабудзяцца да жыцця. (вл)

# І грыбы растуць не ў лесе

Грыбы растуць у лесе. Але не толькі. Аб пячурках, напрыклад, найсмачнейшых з усіх грыбоў, можна сказаць, што іх прадукуюць.

У Варшаве ёсць фабрыка грыбніцы пячурак. Грыбніца гэта проста грыбная маса, з якой і на якой расце грыб. Тут у лабараторыі робіцца 70 тысяч цыліндраў пячуркавай грыбніцы ў год.

Пячуркі вельмі ахвотна купляюцца заграніцай. Варшаўская лабараторыя вядзе парады для гадоўцаў, як вырошчваць пячуркі, якія ўгнаенні ігд. Вядзе таксама сваю вопытную дзялянку пячурак.

Уверсе здымак — у лабараторыі грыбніцы.

Унізе — з выпрадукаванай грыбніцы выраслі пячуркі. (вл)





Навіны экрана

**«Каралеўна і рыбак»**

Фільм чэхаславацкай прадукцыі. Цікавая байка для дзяцей і для дарослых. Расказвае аб сыне рыбака, якому варожка прадказвае, што калі вырасце, ажэніцца з каралеўнай. Вестка такая даходзіць да караля. Той загадвае ўтапіць хлопчыка. Жыццё аднак кіруе інакш. Ідуць гады, і дарослы хлопец сустракаецца з каралём у хаце старога рыбака. Кароль не хоча аддаць яму і цяпер сваёй дачкі за жонку. Ён і цяпер стараецца ўсяляк пазбыцца хлопца. Не ўдаецца і цяпер. Хлопцу памагае чарадзейская сіла, а кароль вымушаны пакінуць сваё каралеўства.

Глядач

# Авакада — ежа ў Космасе

Грузінскія вучоныя прапануюць касманаўтам новую ежу — авакаду. Што гэта такое? Гэта вечназялёная расліна Мексікі з цудоўнымі пладамі. Авакада расце таксама і ў Грузіі. Восенню дрэва авакады дае плады да паўкілаграма вагой падобныя да грушы.

Пад тонкай лупінай, якая лёгка аддзяляецца, знаходзіцца зеленаватажоўтая мякаць у смаку як сметанкавае масла. Мякаць мае ў сабе многа ўсіх вітамін. Яна і па каларычнасці багата. Арганізм чалавека можа жыць за самай авакадай і вадой. (вл)

## Аляксей Карпюк
# Пушчанская адысея

З першых дзён лагернага жыцця мы з Валодзькам думалі толькі пра адно: як адгэтуль вырвацца. Некаторыя людзі, якія прыехалі ў адным транспарце з намі, неяк ужо надта хутка прымірыліся са сваёй доляй. Мы такіх не разумелі.

Ад нястачы вітамінаў у Штутгофе панавала агідная хвароба — флегмона. Спачатку выступалі на целе чырвоныя плямы, паступова яны сінелі, і потым цела пачынала гніць так, што бялелі наверсе косці. З'яўляецца ў каго-небудзь такая флегмона на назе, і чалавек ужо думаў толькі пра свае балячкі. Абкладаў лістам, абкручваў, бярог ад вады, стагнаў, лічыў, колькі дзён яна яго ўжо мучыць, колькі яшчэ можа цягнуцца. Мы з братам таксама мелі гэтую заразу, але яе нават не заўважалі.

Якраз нас уключылі ў каманду «Гопегіль». Ля цагельні з боку канала варты амаль не было. Прыдумай спосаб перабрацца цераз канал — і ты на волі! Я ўспомніў, што татары ў часы паходаў перабіраліся цераз глыбокія рэчкі па дне з трысцінкай у зубах. Мы з Валодзькам укралі ў цэху дзве доўгія медзяныя трубачкі, падпільнавалі момант, узялі трубачкі ў рот, не паглядзелі, што ногі з флегмонай, палезлі ў ваду правяраць, што выйдзе. На жаль, канал даўно не чысцілі, на дне было столькі глею, што не ступіць і кроку.

11

Калі здаралася каму-небудзь з нашых знаёмых уладкавацца на цёплую і лёгкую работу, ён рабіўся ціхі, прытойваўся, чакаў, думаючы так перажыць. Некаторыя арыштанты нават марылі зрабіць кар'еру. Мяне обер-майстар Макс пару дзён таму назад уздумаў назначыць начальнікам над васьмю арыштантамі, якія нагружалі гліну. Цяпер я мог жыць лепш за другіх і памагаць яшчэ брату. Але ўсё роўна думаў толькі аб тым, як мая новая пасада паможа вырвацца з гэтага пекла.

У адным транспарце з Беластоцкай турмы нас прыехала чалавек шэсцьсот. Пераважна гэта былі сяляне, людзі добрыя і сумленныя, але без рызыкі. Бывала, прыйду да іх у барак і бачу, як яны самі сябе ашукваюць. Вераць байкам, быццам праз тыдзень-другі нашы высадзяць дэсант і вызваляць усіх з лагера. А то завядуць спрэчку, хто лепшы: камендант лагера штандартфюрэр Гопэ ці начальнік лагера Майер. І тут хто-небудзь з такім жа ўздымам пачне выхваляцца, як яму ў абед удалося злавіць у супе аж чатыры бульбіны. Мне становіцца сумна. Праз некалькі хвілін я ўжо не магу слухаць гэтага самаашуканства. Але не хочацца псаваць людзям настрой. Уцякаю ад іх, упарта кажу сабе з душы:

«Не тое, не тое... Эх, чорт!...»

Тут сядзелі і бывалыя людзі, цікавыя. Напрыклад, — механік танкера «Донбасс», палярнікі. Усе яны былі фізічна пакалечаныя, аслабленыя. Мяне яны навучылі, як схаваць след, як абысціся без компаса, як абдурыць сабак.

У лагеры налічвалася з паўсотні нацыянальнасцей. Было шмат і немцаў. Бестэрмінова сядзелі гамбургскія бандыты, берлінскія фальшываманетчыкі. Былі таксама і салдаты, якія, прыехаўшы з фронту на пабыўку, пераспалі ноч з полькамі і трапілі сюды за змяшэнне арыйскай расы. Знаходзіліся тут і ксяндзы, цыганы, яўрэі...

У Штутгофе сядзела многа і нямецкіх камуністаў. Некаторыя з іх ужо памянялі чырвоныя вінкелі на зялёныя і пры сустрэчах віталі адзін другога клічам «Гайль Гітлер!» Іншыя хадзілі як цені і ні з кім не размаўлялі. Але была і самая вялікая, трэцяя катэгорыя.

12

З першых дзён кінуўся ў вочы цёмна-русы здаравяка Рыхард Шэмуксніс. Ён паходзіў з Інстэнбурга, і Гітлер яго пасадзіў яшчэ ў 1934 годзе за арганізацыю камсамольскай ячэйкі ў тэхнікуме. Гэты малады і стройны прыгажун нагадваў нечым героя, які сышоў са старонак раманаў Дзюма і цяпер сваім абавязкам у лагеры лічыў — памагаць нешчаслівым.

Шэмукснiс з арыштантамі хадзіў у Эльбінг па хлеб для лагера і потым пацiху яго раздаваў. Мы з Валодзькам яму нечым спадабаліся, і немец узяў над намі шэфства. Рыхард лічыўся старым нумарам, праз яго мы сталі ў лагеры вядомымі. Ён збіраў вечарамі кампанію немцаў і прасіў расказваць пра беларускіх партызан. Мы крыху перабольшвалі, бо і тут хацелі толькі падняць сябе ў вачах, увайсці ў давер'е і вырвацца адгэтуль.

7.

Едзем у таварным вагоне. Валодзька ля акна вартуе, а я сачу за яго тварам. Нам ніхто не перашкаджае. Арыштанты валяюцца на падлозе, грэюцца вакол адной буржуйкі, а вахманы сядзяць на скрынях і грэюцца вакол другой.

І тут я бачу, што Валодзка перамяніўся ў твары.

— Ты чаго? — пытаюся.

— Снег, Алёшка! — ледзь не з плачам скардзіцца ён.

— Ды ну-у?

— Глядзі сам!

Валодзька сядае да кампаніі, а я асцярожна набліжаюся да акенца. І праўда! Усё поле і будынкі, як толькі можа ахапіць мой позірк, укрывае роўная коўдра першага ў гэтым годзе снегу. А яшчэ, нібы на злосць, свеціць месяц, і на двары так бела, што аж рэжа ў вачах.

Вось дык справы!

13

